

# Ніва



ГОД I № 6 БЕЛАСТОК, 8 КРАСАВІКА 1956 г. ЦАНА 60 гр.

## НЕ, ВЫ ДРЭННА ДУМАЕЦЕ

Нядаўна рэдакцыя „Нівы" атрымала пісьмо грм. Кірыла Самойлюка, які жыве ў вёсцы Падрэчаны ў Гайнаўскім павеце. Ён піша: „Я не разумею і дрэнна чытаю гэтую нядаўна вынайдзеную беларускую мову і вельмі дзівуюся, хто яе выдумаў і нам, беларусам навязаў".

Мы не гаварылі-б аб гэтым, калі-б думку грм. Самойлюка не раздзялялі і некаторыя іншыя грамадзяне.

Не, грамадзянін Самойлюк! Вы дрэнна разумееце гэтую справу, калі гаворыце, што беларускую мову нам быццам-бы хтось навязаў. Яе ніхто нам не навязаў, — яна стагоддзямі жыве ў душы і сэрцы мільёнаў беларусаў. Так думаючы Вы абражаеце прыгожую, багатую мову вашых продкаў і вашу, вы абражаеце нацыянальную гордасць.

Беларускі пісьменнік Францішак Багушэвіч сказаў некалі: „Мова, гэта адзёжа думы і па гэтай адзёжы пазнаюць нас людзі".

Калі мы не будзем цаніць і любіць сваёй мовы — мы асаромім сябе перад іншымі народамі. Нашы польскія, рускія і другія сябры скажуць: што-ж варты чалавек, які сароміцца прызнацца, што ён беларус, што яго родная мова — беларуская мова.

А сароміцца нам няма чаго. Беларускі народ мае слаўную гісторыю і багатую культуру. Нават Энгельс пісаў, што ўжо ў XIV стагоддзі беларуская мова была ў наяўнасці (г. з. існавала самастойна). Беларуская мова здабыла сабе пануючае значэнне ў Літоўскім Княстве. Ад XIV да XVI стагоддзяў яна была афіцыяльнай мовай дзяржаўных літоўскіх актаў, юрыдычных дакументаў.

Выдатныя дзеячы канца XVI і пачатку XVII стагоддзя, такія, як: Георгій Скарына, Сымон Будны, Сымон Полацкі і шмат іншых напісалі на беларускай мове многа цікавых і цэнных літаратурных твораў. У гэты час узнікаюць беларускія друкарні, выпускающа кніжкі, стваряющя школы, пашыраецца беларуская асвета і культура.

У XVIII стагоддзі, нягледзячы на нацыянальны і соцыяльны прыгнёт, беларускі народ далей развівае сваю культуру. І хоць у 1697 годзе спецыяльны ўказ польскіх магнатаў забараніў друкаваць кніжкі на беларускай мове, народ не спужаўся гэтага. Беларуская мова жыла ў сэрцы народа, а беларуская літаратура развівалася ў народзе ў вуснай творчасці, у расказах, якія бабка пераказвала сваім унукам, у песьнях, якія маці спявала над калыскай дзіцяці.

У XIX стагоддзі паявіліся такія імёны, як Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Кастусь Каліноўскі. Францішак Багушэвіч, Янка Лучына, Цётка, Максім Багдановіч. На змену ім прышлі: Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў і цэлая плеяда совецкіх пісьменнікаў. Гэта толькі частка вялікіх сыноў беларускага народа, якія чынам і словам змагаліся за тое, каб беларусы былі вольным народам, каб лепш жылі, каб мелі свае беларускія школы, друкарні, кніжкі, каб як і іншыя народы, маглі „людзьмі звацца". Усё гэтае мы цяпер маем. Маем школы, маем друкарню, дзе друкуецца „Ніва", маем беларускія кніжкі, маем усе правы да жыцця і працы, а правы гэтыя гарантуе нам наша Канстытуцыя.

Не, грамадзянін Самойлюк, вы дрэнна думаеце, — беларуская мова багатая, прыгожая, родная! Мы на ёй сказалі першае слова, выхаваліся на ёй.

Як-жа не любіць яе, не старацца пазнаць яе, калі яна наша мова!

ВЕРА ЛЕУЧУК



*Белавежа — парк.* *Фото — Пуцэк*

ПІМЕН ПАНЧАНКА

## БЕЛАВЕЖА

Хвоі высяцца, нібы вежы,
Над пажоўклым імхом палян.
Старажытная Белавежа —
Усхвалёваны акіян.

Дуб вячысты ў галлі кашлатым
Успамін аб мінулым збярог:
Прыязджалі сюды магнаты,
Паляўнічы трубіў у рог.

На сухі парыжэлы верас
Пырскаў пенай крывавай вепр.
І паны памінаці звера,
Баль спраўляючы на траве.

Мы сказалі магнатам: «Хопіць
Сыта бавіцца!» І павёў
Нашу роту сялянскі хлопец
Па заблытанай сцежцы ласёў.

Каля сосен, віхурай зваленых,
Лівень след наш гарачы гасіў.
Тут драпежнікаў дабівалі мы,
Небяспечнейшых ад усіх.

І чакаў нас за кожнай купінай
Куль варожых смяротны рой.
Ваша воля, браты мае, куплена
Дарагою цаной — крывёй.

Белавежа, ты век не састарышся, —
Надыйшлі маладыя дні.
Пра геройства маіх таварышаў
Хвойнай песняю празвіні!

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



# Колькі каштуе вайна?

Толькі на працугу жыцця аднаго пакалення, чалавецтва пражыло дзве сусветныя вайны, па прычыне якіх загінула многа мільёнаў людзей, былі нанесены велізарныя матэрыяльныя страты, якіх яшчэ не ведала гісторыя.

Вось невялікае параўнанне: У час I сусветнай вайны ў баявой гатоўнасці знаходзілася каля 36 мільёнаў людзей, а ў час II сусветнай вайны — ўжо 110 мільёнаў.

У час I сусветнай вайны загінула звыш 12-ці мільёнаў людзей, а ў час II сусветнай вайны — 40 мільёнаў. А гэта была найбольш здаровая частка насельніцтва змагаючыхся краін. Насельніцтва, якое засталося ў тылах, таксама працавала на патрэбы вайны.

Кожны чалавек вельмі добра ўяўляе сабе гэта, што калі-б праца мільёнаў людзей была выкарыстоўвана ў мірных мэтах, яна садзейнічала-б павялічэнню колькасці сродкаў прадукцыі і артыкулаў харчавання.

Паводле нават скромных аблічэнняў буржуазных эканамістаў, якія заўжды імкнуцца ўсімі спосабамі зменшыць статыстычны лік страт нанесеных народам II-ой сусветнай вайной, — аказваецца, што апошняя вайна каштавала 4.000 мільярдаў долараў! Гэты кошт з'яўляецца 27 разоў большым ад кошту папярэдняй вайны.

Сума 4.000 мільярдаў долараў у выніку выкарыстання яе дзеля дабра чалавецтва, ліквідавала-б ўсялякую галеч і нястачы.

Ваенныя падрыхтаванні, не гаворачы ўжо аб самай вайне, з'яўляюцца вялікім цяжарам для грамадства і прычынай людскіх нястач. Каб яшчэ выразней гэта ўсё ўявіць, для прыкладу падаем некалькі параўнальных даных наконт кошту некаторых родаў зброі.

І так за цану звычайнай вінтоўкі, можна было-б вырабіць два плугі. Звычайная авіяцыйная бомба, або тарпеда каштуе толькі, колькі пяць аднасямейных домікаў. Адзін танк каштуе толькі, колькі пабудаванне і абсталяванне школы паводле навейшага ўзора; за цану бамбардзіроўшчыка можна было-б пабудаваць навейшую бальніцу; замест аднаго тарпеданосца — 36 школ на 500 дзяцей кожная.

Сярэдні ваенны карабель патрабуе затраты сродкаў, якіх хапіла-б на пабудаванне вялікага прамысловага прадпрыемства. Пабудаванне броненосца — паглынае многа працы, дзесяткаў тысяч тон добраякаснай сталі і іншых каштоўных металаў, тысячы рухавікоў, машын і прыстасаванняў. За кошт яго пабудовы можна было-б пабудаваць 100-тысячны горад з навейшым сацыяльным абсталяваннем.

Варта дадаць, што патоплены ў гдынскім порце ў час ваенных дзеянняў нямецкі крэйсер „Гнайзенаў" аб вадазмяшчальнасці 42.000 тон, каштаваў Нямеччыну такую суму, якую складаў увесь гадавы буджэт санацыйнай Польшчы.

За цану адной лятаючай крэпасці (а вырабляецца іх тысячы) можна было-б пабудаваць 325 аднасямейных домікаў. За суму, якую выдаткоўваецца на пабудову аднаго авіяносца можна было-б запэўніць вучобу і ўтрыманне для 100 тысяч студэнтаў.

Жоліо-Кюры, вялікі вучоны і барацьбіт за мір, у адной са сваіх прамоў — заявіў, што за цану аднаго крэйсера можна было-б пабудаваць 10 вялікіх навукова - даследчых устаноў і запэўніць іх поўнае ўтрыманне на працягу 100 год.

Як паведамляе амерыканская прэса рыштунак адной бронетанкавай дывізіі каштуе 500 мільёнаў долараў.

А колькі-ж каштуе вытворчасць атамных і ядзерных бомб, і іншага рода атамнага ўзбраення? Можна смела сцвердзіць, што сумы, якія выдаюцца на гэты цэль з'яўляюцца проста астранамічнымі і перавышаюць у некалькі разоў цану іншых звычайных родаў зброі.

Трэба яшчэ дадаць, што з кожным годам тэхніка ўзбраення ідзе наперад, усе роды ўзбраення ўдасканальваюцца і, тое, што ўчора каштавала некалькі мільёнаў — сёння або заўтра будзе каштаваць яшчэ больш.

А вось прыклады: у 1945 г. цана цяжкага бамбавоза складала суму 629 тысяч долараў, а ўжо ў 1951 годзе — 3.500 тысяч долараў. Цана авіяносца ў 1945 г. складала суму 60 мільёнаў долараў, а ў 1951 годзе — 120 мільёнаў долараў. Мы добра ведаем з недалёкага мінулага, што прыносяць войны толькі смерць мільёнаў людзей, разбурэнні вёсак і гарадоў.

Даволі прыпомніць Варшаву — Сталінград — Вроцлаў, ды наш Беласток. Гадамі трэба адбудоўваць фабрыкі, масты, вёскі і гарады, утрымоўваць тысячы калек і сірот, не гаворачы аб хваробах і агульным недамаганні.

Чаму дзеля такіх вялікіх выдаткаў, якія ідуць на зброю і іншыя ваенныя знішчэнні — не спыняецца далейшай гонкі ўзбраенняў?

Каму залежыць на тым, каб мільярды долараў ішлі на зброю, замест на патрэбнасці працоўных?

На ўзбройванні залежыць перш за ўсё, невялікай групе людзей — ваенным злачынцам, якія коштам людской крыві і знішчэнняў, дабываюць мільярдавыя даходы, і мараць аб кіраванні светам.

Лагер міру, на чале якога стаіць Совецкі Саюз, заўсёды імкнецца да таго, каб спыніць гонку ўзбраенняў, паменшыць армію, ліквідаваць зброю масавага знішчэння.

У сувязі з разрадкай міжнароднай напружанасці, СССР і краіны народнай дэмакратыі паменшылі свае арміі, а пры гэтым выдаткі на ўзбраенне.

Усё больш становіцца рэальным ленінскі тэзіс, адносна існавання двух супроцьстаўных сістэм. Пастановы і ўказанні XX-га З'езда КПСС, даюць яшчэ больш рэальныя асновы да мірнага супрацоўніцтва паміж народамі, да змяншэння міжнароднай напружанасці, да спынення гонкі ўзбраенняў.

Людзі ўсяго свету, якім дарагі мір, сочаць за тым, як у Лондане працуе Падкамісія па разбраенню ААН. Ці нарада прынясе пажаданыя вынікі? Ці мільярды долараў прызначаныя на ўзбраенне, абернуцца на карысць народа?

На гэтыя пытанні, адкажа недалёкая будучыня.

Народы ўсяго свету прагнуць міру і дабрабыту.

А. ОМІЛЬЯНОВІЧ

З ПРЫРОДАЗНАЎСТВА

## Прыкладны муж

У трапікальных краінах жыве птушка насарог, якая мае непрапарцыянальную дзюбу. Характэрнай рысай гэтай птушкі — гэта яе неспатыканая апека над сваёй сям'ёй, і таму насарог можа паслужыць прыкладам некаторым прадстаўнікам чалавечага роду.

У часе, калі самка складае яйцы, а потым выводзіць пісклят, самец замуроўвае глінай дупло, пакідаючы толькі малую дзіру, патрэбную для падкормкі самкі. А калі вывядуцца цыпляняты, самец апякуецца імі да часу іх узросту. Потым разбурае замазку і выпускае сям'ю на свабоду.

## Найдаўжэйшае ў свеце стварэнне

З жывучых на планеце стварэнняў найдаўжэйшым, з'яўляецца, марскі чарвяк — лінаўсем. Цела яго плоскае, як істужка, пакрытае падоўжнымі і папярэчнымі пругамі яркага колеру. Сярэдняя даўжыня яго раўняецца 10—15 мтр., але аднойчы натраплена на выключную з'яву, дзе даўжыня гэтага чарвяка даходзіла да 36 мтр. Наперадзе мае ён доўгае рыла, якое служыць для абароны або нападання. У нармальных умовах яно заўсёды ўцягнута ўнутро.

Сустрэць лінаўсемаў можна на берагах мораў у выглядзе паблытаных клубкоў.

## ПАРАДЫ гаспадарам

Шмат беларускіх сялян яшчэ падзяляе погляд, што канюшына з'яўляецца нібыта больш ураджайнай кармовай культурнай, чым люцэрна. Сапраўды-ж погляд гэты не заўжды з'яўляецца справядлівым.

Ураджаі канюшыны, большыя ад ураджаяў люцэрны, атрымліваюцца толькі і выключна ў раёнах з вільготным кліматам і цяжкай глебай. Ва ўсіх іншых умовах люцэрна мае рашучую перавагу над канюшынай. Для прыкладу возьмем наступнае параўнанне:

Калі-б засеяць гектар канюшыны і гектар люцэрны на глебе, на якой аднолькава буйна раслі-б абедзве гэтыя культуры, то люцэрны вы накасілі-б 100 цэнтнераў з гектара (у год), а канюшыны 75 цэнтнераў, (на 25 прац. менш).

Люцэрна асабліва добра расце ў раёнах з цёплым і сухім кліматам, а ў некаторых выпадках і на лёгкіх пясчаных глебах.

Косіцца люцэрну ў той час, калі яна поўнасцю зацьвіце. Першую касьбу люцэрны можна правесці ўжо ў канцы месяца мая, або на пачатку чэрвеня. Касіць яе можна 3—4 разы ў год. Часцейшае выкошванне люцэрны прычыняецца да яе выраджэння.

З 1 гектара атрымліваецца 4—5 цэнтнераў добрага насення.

У 3-цім нумары „Нівы", з дня 18 сакавіка 1956 г., у арт. «Парады гаспадарам» — дзе гаворыцца аб пасеве кукурузы, закралася памылка (за якую перапрашаем нашых чытачоў) ў наступным сказе, які падаем ужо папраўлены: „Перад пасевам, зерне трэба запраўляць не толькі зернікам, як іншае збожжа, але таксама і ГЦТ, які трэба стасаваць у колькасці 200—300 грамаў на 100 клг зерня".

НАВІНЫ НАВУКІ І ТЭХНІКІ

## ВЕРТАЛЁТ-МАЛЮТКА

Новы совецкі верталёт - малютка К-10, які створаны калектывам авіяработнікаў на чале з Н. І. Камавым, не зусім звычайны. Два шары, якія надзмуваюцца, матор, крэсла пілота, рычагі кіравання і нясучыя, сувосна размешчаныя вінты — вось асноўныя элементы гэтай маленькай машыны, якая валодае незвычайнай манеўранасцю. З зайздросным спрытам «паветраны матацыкл» здзяйсняе рухі ўверх-уніз, наперад-назад, управа-улева. Ён можа нерухома вісець у паветры і рухацца з хуткасцю да 120 кіламетраў у гадзіну. Верталёт лёгка робіць пасадку на палубу карабля, кузаў грузавой аўтамашыны. Сеўшы на ваду, ён рухаецца, як маторная лодка. Верталёт-малютка ўзнімаецца на вышыню да 2.500 метраў.

Калі-ж у паветры адкажа матор, дык верталёт не ўпадзе ўніз, а дзякуючы так званай «аўтаратацыі» (самавярчэнню вінтоў) спакойна спусціцца на зямлю. Пры гэтым лопасці вінтоў адыгрываюць ролю своесаблівага парашута.



Машына вельмі эканамічная: на 100 кіламетраў дарогі матор спажывае 10—12 кілаграмаў гаручага.

У бліжэйшым будучым верталёт-малютка знойдзе шырокае прымяненне ў розных галінах народнай гаспадаркі краіны.




(5)

— Галодныя каторы дзень ідзем, — умяшаўся Калодка, — а тут, у лесе, дрэва ці траву не будзем грызці. Чловек усё-ж такі, а не быдла...

Ядзя, знаёмячыся з Міколам, была зусім няшмат падобная на дарослую. Ва ўсмешцы, з якой яна называла яму сваё імя і хацела пачуць у адказ імя «пана жалнежа» — больш было проста дзіцячай цікавасці. А цяпер пачуўшы Калодкавы словы пра голад, яна нібы схамянулася і раптам на шмат пасталела.

— Добжэ, — сказала яна. — Вы пачакайце тут, а я пайду і прынясу вам хлеба.

— О, гэта дык гэта! — амаль ускрыкнуў Калодка. — Эх, не было-б гэта сваё. Ідзі, цурка, ідзі!..

Дзяўчынка трошкі падумала.

— Вы пахавайцеся, — сказала яна зусім сур'ёзна. — А я, як прыду, скажу так.

Яна зусім па-дзіцячаму наставіла губкі і тройчы ціха закукавала:

— Ку-ку, ку-ку, ку-ку!..

— А то-ж разумніца мая! — зусім расплыўся Калодка. — Ты нам ку-ку і мы табе з кустоў куку. Ты толькі хлеба нам нясі пабольш. І хлеба, і да хлеба!..

Апошняе было ўжо сказана ў дагон.

* * *

А галоўнае так і не ўспомнілі, — не спыталіся, Польшча ўжо ці яшчэ ўсё Нямеччына?

Я ледзь не крыкнуў услед дзяўчынцы: «пастой!», але ўспомніў адразу, ужо з адчыненым ротам і ўзнятай рукой, што і тут небяспечна крычаць. І ў гэты момант яна апошні раз мільганула ў зелені кустоў. А на момант пазней мы пачулі зусім недалёка смех...

Засмяяўся нехта не там, куды пабегла дзяўчынка, а ў тым баку, адкуль мы прышлі. Спакойна разважаючы, можна было падумаць, што на ўсіх мовах людзі смяюцца аднолькава: засмяяцца за дрэвамі мог і не вораг. Ды мы за два гады прызвычаіліся да думкі, што паняволенай Гітлерам Польшчы было не да смеху. Засмяяўся мужчына, на смех якога другі мужчынскі голас таксама весела і моцна адказаў... па-нямецку!

Мы шыбанулі ў лес.

Мікола бег першы. Ён паспеў нават па-нашаму ціха крыкнуць: «бягом!» Следам за мной траўчаў галлём і грукатаў Калодка.

Ужо праз метраў дзвесце ці трыста я ўспомніў, што з гэткім шоламам нам не прайсці. Я сігануў на ўвесь цыркуль, дагнаў Міколу і, параўняўшыся з ім, загадаў:

— Пачакай!

Мікола зразумеў мяне таксама, як мы перад хвілінай зразумелі ягоны загад.

— За мной — Калодка, — сказаў я, — а ты за ім. І ціха.

Мы рушылі павальней, аднак амаль зусім нячутна.

Наша найлепшая сяброўка — ноч — ішла насустрач нам вельмі павольна. У ельніку яна асела ценямі, у шэрай гушчы якіх мы адчувалі сябе лепш. Ды ельнік спачатку радзеў, потым яго патрохі змяніла бярозавае дробналессе. Стала святлей. Па верасах, сям-там збіваючы шапкі затоеных грыбоў, мы, не змаўляючыся, пайшлі шпарчэй, а за намі і спераду нас, і абапал нячутна ішла небяспека...

І вось я, нарэшце, спыніўся.

Праз рэдкія кусты і бярозкі прылеска мы ўбачылі луг. Ён рассцілаўся шырока ў бакі і наперад, а светла-шэрае неба над ім гаварыла, што ноч яшчэ не прышла... Маленькія кравецкія машыны конікаў яшчэ ўсё сакаталі ў роснай атаве, — бязлікія, нястомныя краўцы яшчэ ўсё шылі, нават прыцемкам. Дзень датляваў на захадзе бяскроўнай палоскай зары. Зорак яшчэ не было. Асцярожныя прыгажуні сарны яшчэ не вышлі на ўскраіну лесу. Нават і з гушчару не чутно яшчэ хрыпатых поклікаў іх фанабэрыстых, рэўнівых дзецюкоў, галасы якіх непрыемна нагадваюць нам брэх аўчарак.

Ісці далей, ці пачакаць?

На лузе толькі сцелецца, нібы узлымаецца з травы туман. Над лугам адно бязмежнае, ціхае неба.

І мы пайшлі.

Шорах роснай травы пад нагамі. Маўчанне і думкі, якіх ніхто з нас не хоча выказваць. Усё не новае, усё зразумела і так.

Новае прышло толькі недзе на самай сярэдзіне луга. Гэта была рака.

Толькі пазнаўшы яе пад градою туману, дзе мы ўжо навучыліся здалёк пазнаваць непрыемны дрыготкі холад вады, я спыніўся, сябры падышлі, і Мікола сказаў:

— Ну, вядома...

Адзін за ўсіх нас, з прыціскам ён адпусціў на свабоду зусім зразумелую, шчырую лаянку.

Працяг будзе

